# Праграма тэлебачаньня з 1 лютага па 7 лютага

## •• Понедельник, 1 февраля ••

**Праграму тэлеканалаў мы друкуем на замову чытачоў. Гаспадары праграмы падаюць нам яе на расейскай. Рэдакцыя фізычна (па часе) не пасьпявае яе перакласьці. Просім разглядаць гэтыя старонкі як тэхнічна-службовы матэрыял, які ня мае дачыненьня да зьместу й характару нашай газэты.**

**БТ**
6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.10 Новости.
8.15 Резонанс.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 Телебарометр.
9.40 "Сегодня с вами..."
10.05 Здоровье.
10.30 Усадьба.
11.15 "Проклятый уютный дом".
12.05 Теленавигатор.
12.25 Музыка без границ.
13.10 К.Денев и М.Пикколи в мистической драме "Генеалогия преступления" (Франция).
15.15 "Приключения Шерли Холмс" (Канада).
15.40 Видеокурс французского языка.
16.05 ТВ — школе.
16.25 Мультфильм.
16.35 Авто-парк.
16.45 Премьера песни.
17.10 "А музыка звучит..."
17.40 "Каложская церковь". Док. фильм.
18.05 "Проклятый уютный дом".
19.15 Политические диалоги.
19.40 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
21.55 "Зеленая студия".
22.15 Е.Урбанский в худ.фильме "Чистое небо".
0.00 Криминальная хроника.
0.05 Белорусский хит-парад.
0.20 Третий тайм.

**ОРТ**
8.00, 11.00, 14.00, 17.00 Новости.
8.15 "Жестокий ангел".
9.15 Здоровье.
9.45 Поле чудес.
10.40 "Странная птица". Мульт-фильм.
10.50 Домашняя библиотека.
11.15 Программа "Вместе".
14.15 Мультсериал "Каспер, который живет под крышей".
14.35 Мультфильм.
14.55 Звездный час.
15.35 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Жестокий ангел".
17.15 Эти забавные животные.
17.45 Здесь и сейчас.
18.05 Программа "Мы".
18.45 Новая версия сериала "Вечный зов".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.50 "Охотники за сновидениями".
21.45 Взгляд.
22.30 Новость дня.
22.45 "Пять вечеров". Худ. фильм.

**"РОССИЯ"**
6.00, 8.30, 8.45 Доброе утро, Россия.
8.15 Дежурная часть.
8.35 Телеигра "Программа передач".
8.50 Товары — почтой.
9.00 "Санта-Барбара".
9.45 Музыка, музыка...
10.00, 16.00, 19.00, 23.10 Вести.
15.20 Мультфильм.
15.30 "Первые поцелуи".
16.35 "Башня".
17.00 Компьютер.
17.20Худ. фильм. "Гонки по вертикали". 1-я серия.
18.30 Дежурная часть.
18.40 История одного события.
19.40 Подробности.
19.50 Любовь с первого взгляда.
20.25 А. Захарова и А. Соколов в комедии "Невеста из Парижа".
22.00 "Жара в Лос-Анджелесе".
22.50 Дежурная часть.
23.40 Автомотоспорт.

**"КУЛЬТУРА"**
7.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
7.25 "Приключения Тома Сойера". Худ. фильм.
8.45 Поклонникам Терпсихоры.
9.00, 15.00, 17.00 Новости.
9.05 "Ночи и дни". 8-я серия.
9.55 Рядом с тобой.
10.15 "А прошлое кажется сном..."
10.45 "И минул год..." Памяти Алеся Адамовича.
11.40,12.45 А.С.Пушкин. "Евгений Онегин". Литературно-музыкальный спектакль.
12.30 "Без визы".
13.29 Азбука.
13.45 "15-й подъезд".
14.10 "Бернард Шоу". Передача 1-я.
15.05 "Арабелла".
15.35 "Лукоморье".
15.55 "Омоним". О проблемах русскоязычных писателей в Израиле.
16.25 "2003".
16.30 "Кумиры". В.Гафт.
17.05 Мир авиации.
17.30 Театр "Модерн".
17.45 Академик Б.Раушенбах. Часть 1-я.
18.10 Ф.Мендельсон. Концерт для скрипки и фортепиано с оркестром.
18.45 Боярский двор.
19.15 Чудо-сказка.
19.29 Азбука.
19.50 "Сны сталкера". Док. фильм.
20.45 После новостей...
21.05 "Ночи и дни". 8-я серия.
21.55 "Рассказы старого сплетника". Передача 1-я. "Екатерина Максимова в Петербурге".
22.21 Кремлевские няньки.

**НТВ**
6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 "Сегодня утром".
8.10 "Ее звали Никита".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня.
9.15 Вчера в "Итогах".
10.15 Куклы.
10.30 Итоги. Ночной разговор.
11.30 "Открытая книга".
13.25 "Моя последняя мечта будет о вас..." Заключительная серия.
14.20 "Сегоднячко". Красная стрела.
15.30 "Захватчики" (США).
16.30 Впрок.
16.55 "Любовь и тайны Сансет Бич".

**"МОГИЛЕВ-1" на БТ**
12.05 Пунктир.
12.35 ДАО.

**"МОГИЛЕВ-1"**
17.30 "Большой кайф,или Приключения в Новом Орлеане".
18.15 Мультфильмы.
18.40 Бобруйский вариант.
19.00 Тяжелый день.
19.30 Праздник в вашем доме.
20.20 Телемагазин.
20.30 День области.
20.50 Астро-дайджест.
21.00 Праздник в вашем доме.
21.35 "Офицеры". Худ.фильм.
23.10 День области.
23.20 "Соседняя комната ". Детектив.

**2 КАНАЛ**
18.00 "Победоносный голос верующего".
18.30, 21.30 Городские новости.
18.40 "Союзмультфильму — 60".
18.57, 20.40 Прогноз погоды.
19.00 "Дерзкие и красивые".
19.25 "Клуб "Белый попугай".
19.50 "Поздравления".
20.30 Мультфильм.
20.43 "Акапулько".
21.40 Комедия "Матильда".
23.20 Спортивная программа.

## •• Вторник, 2 февраля ••

**БТ**
6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55 Новости.
8.15 Политические диалоги.
8.40 Потребительская корзина.
9.10 ТВ — школе.
9.30 "Все дело в шляпе".
9.55 Мультфильм.
10.10 "Сегодня с вами..."
10.35 "Возвращение мастера". Художник Юрий Пен.
11.15 "Проклятый уютный дом".
12.05 Третий тайм.
12.35 "А музыка звучит..."
13.15 "Мисс "Силач-98".
14.00 Туробъектив.
14.25 Бездельник.
15.15 "Приключения Шерли Холмс" (Канада).
15.45 Видеокурс английского языка.
16.10 ТВ — школе.
16.40 Слово Митрополита Минского и Слуцкого, Патриаршего экзарха всея Беларуси Филарета по поводу Синода православной церкви.
17.10 Уроки Н.Новожиловой.
17.35 Гости в дом.
18.05 "Проклятый уютный дом".
19.15 "Алло, "Событие". Прямая линия.
19.40 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 "Хотите — любите, хотите — нет". Худ. фильм.
23.15 Криминальная хроника.
23.20 Белорусский хит-парад.
23.25 Музыкальный салон. Муслим Магомаев.

**ОРТ**
8.00, 11.00, 14.00, 17.00 Новости.
8.15 "Жестокий ангел".
9.15 Взгляд.
10.00 Смехопанорама.
10.30 Футбольное обозрение.
11.15 Программа "Вместе".
14.15 "Каспер, который живет под крышей".
14.35 Мультфильм.
14.50 Счастливый случай.
15.35 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Жестокий ангел".
17.15 Угадай мелодию.
17.45 Здесь и сейчас.
18.05 Тема.
18.45 "Вечный зов".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.50 Эпопея Юрия Озерова "Ангелы смерти".
22.35 Эдвард Радзинский. "Как стать Наполеоном". Часть 1-я.
23.15 Новость дня.

**"РОССИЯ"**
6.00, 8.30, 8.45 Доброе утро, Россия.
8.15 Дежурная часть.
8.35 Телеигра "Программа передач".
8.50 Товары — почтой.
9.00 "Санта-Барбара".
9.45 Музыка, музыка...
10.00, 16.00, 19.00, 23.10 Вести.
15.15 Сказочный полдник.
15.30 "Первые поцелуи".
16.35 "Башня".
17.00 Компьютер.
17.20 "Гонки по вертикали". 2-я серия.
18.30 Дежурная часть.
18.40 История одного события.
19.40 Подробности.
19.50 "Аншлаг" представляет.
20.25 Б. Ланкастер и М. Йорк в фантастическом триллере "Остров доктора Моро" (США).
22.15 "Пси фактор".
23.10 Вести.
23.40 Дежурная часть.

**"КУЛЬТУРА"**
7.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
7.25 "Сны сталкера". Док. фильм.
8.20 "Прилетит золотая пчела". С.Шервинский.
9.00, 15.00, 17.00 Новости.
9.05 "Ночи и дни". 9-я серия.
9.55 Поклонникам Терпсихоры.
10.05 Женщины в жизни И. Бунина.
11.00 Мир авиации.
11.40 Ключи серебряные.
12.10 У.Шекспир - Персел. "Буря". Телеверсия спектакля.
13.25 Живое дерево ремесел.
13.29 Азбука.
13.45 "Из концертного зала". П.Коган.
14.10 "Бернард Шоу". Передача 2-я.
15.05 "Арабелла". Часть 2-я.
15.35 "Лукоморье".
15.55 "Время, портреты, судьбы". Денис Давыдов.
16.10 "Открытие таланта".
16.40 Академия спорта.
17.05 "2003".
17.10 Ортодокс.
17.30 Ноу-хау.
17.40 Академик Б.Раушенбах. Часть 2-я.
18.05 Памяти А.Юрлова.
18.25 "Документ-панорама".
19.10 Чудо-сказка.
19.29 Азбука.
19.50 Метаморфозы Юрского периода.
20.45 После новостей...
21.05 "Ночи и дни". 9-я серия.
22.00 "Царица муз и красоты". З.Волконская. Передача 1-я.
22.45 Музыкальный экспромт.

**НТВ**
6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 "Сегодня утром".
8.10 "Любовь и тайны Сансет Бич".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня.
9.15 Герой дня без галстука.
9.40 "Чистосердечное признание".
10.05 Своя игра.
10.30 Дог-шоу "Я и моя собака".
11.30 "Открытая книга".
13.30 "Скорая помощь".
14.20 "Сегоднячко". Красная стрела.
15.30 "Захватчики" (США).
16.30 Впрок.
16.55 "Любовь и тайны Сансет Бич".

**"МОГИЛЕВ-1" на БТ**
12.05 Тяжелый день.
12.30 Бобруйский вариант.
12.50 Мультфильм.

**"МОГИЛЕВ-1"**
17.30 "Большой кайф, или Приключения в Новом Орлеане".
18.15 Катастрофы и войны недели.
18.40 Мультфильм.
19.00 Служба ваших забот.В студии начальник УВПС Могилевской области И.Климчинский.
19.40 Праздник в вашем доме.
20.20 Телемагазин.
20.30 День области.
20.50 Астро-дайджест.
21.00 Праздник в вашем доме.
21.35 "Гараж".Комедия.
23.15 День области.
23.25 "Быстрее молнии". Триллер.

**2 КАНАЛ**
18.00 "Победоносный голос верующего".
18.30 Муз. антракт.
18.40 "Союзмультфильму — 60".
18.57, 20.40 Прогноз погоды.
19.00 "Дерзкие и красивые".
19.25 "Удивительные истории".
19.50 "Поздравления".
20.30 Мультфильм.
20.43 "Акапулько".
21.30 Высокая мода.
21.40 С.Сталлоне в фильме "Бунтарь".
23.05 Спортивная программа.

## •• Среда, 3 февраля ••

**БТ**
6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.00 Новости.
8.15 "Алло, "Событие".
8.40 Потребительская корзина.
9.10 ТВ — школе.
9.40 Видеокурс английского языка.
10.05 Мультфильм.
10.15 Видимо-невидимо.
11.15 "Проклятый уютный дом".
12.05 Компьютерный полигон.
12.25 Зорная ростань.
13.10 А.Балтер в худ.фильме "Последний визит".
14.25 "Рожденный для поэзии". Жизненная и творческая судьба А.Кулешова.
15.15 "Приключения Шерли Холмс" (Канада).
15.40 Видеокурс французского языка.
16.05 "5 х 5".
16.35 Педагогический экран.
17.10 "А музыка звучит..."
17.35 "Судьба моя и надежда",
18.05 "Проклятый уютный дом".
19.15 "Сегодня с вами..." Начальник управления МВД РБ по незаконному обороту наркотиков полковник милиции Анатолий Бурий.
19.40 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 А.Сорди в худ.фильме "Я и Катерина" (Италия).
23.50 Криминальная хроника.
23.55 Белорусский хит-парад.
0.10 Королевская охота.
0.40 Волейбол. Лига чемпионов. Женщины."Амкадор" (Минск) — "Конкордия" (Люцерн, Швейцария).
1.10 Темная комната. Дайджест.

**ОРТ**
8.00, 11.00 14.00, 17.00 Новости.
8.15 "Жестокий ангел".
9.15 Тема.
10.00 В мире животных.
10.35 Мультфильм.
10.50 Домашняя библиотека.
11.15 Программа "Вместе".
14.15 "Каспер, который живет под крышей".
14.35 Мультфильм.
14.50 Зов джунглей.
15.15 Детские анекдоты.
15.35 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Жестокий ангел".
17.15 Угадай мелодию.
17.45 Здесь и сейчас.
18.05 Человек и закон.
18.45 "Вечный зов".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.50 М. Рурк в боевике "Красавчик Джонни".
22.30 "Как быть Наполеоном". Часть 2-я.
23.15 Новость дня.

**"РОССИЯ"**
6.00, 8.30, 8.45 Доброе утро, Россия.
8.15 Дежурная часть.
8.35 Телеигра "Программа передач".
8.50 Товары — почтой.
9.00 "Санта-Барбара".
9.45 Музыка, музыка...
10.00, 16.00, 19.00, 23.10 Вести.
15.20 Мультфильм.
15.30 "Первые поцелуи".
16.35 "Башня".
17.00 Компьютер.
17.15 "Гонки по вертикали". 3-я серия.
18.30 Двойной портрет.
19.40 Подробности.
19.50 Сам себе режиссер.
20.25 В. Гафт и Н. Русланова в иронической комедии "Свободен, я ничей".
22.00 "Закон и порядок".
22.55 Дежурная часть.
23.40 Автошоу.

**"КУЛЬТУРА"**
9.00, 15.00, 17.00 Новости.
9.15 "Ночи и дни". 10-я серия.
10.10 "Документ-панорама".
10.50 Ноу-хау.
11.05 Образ жизни.
11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
11.40 "Сильфида". Королевский Датский балет.
12.55 И.С.Тургенев. "Накануне".
13.10 За околицей.
13.29 Азбука.
13.45 "Без визы".
14.00 "Спортивные встречи". Анфиса Резцова.
14.30 Зачем нам нужен этот "Ужин с дураком".
15.05 "Арабелла". Часть 13-я.
15.35 "Лукоморье".
16.00 "Песнь о Москве". Фильм 1-й.
16.25 "2003".
16.30 "Кто мы?"
17.05 Академик Б.Раушенбах. Часть 3-я.
17.30 "Свой остров". Док. фильм.
17.45 Д.Хворостовский в театре "Новая опера". Передача 2-я.
18.25 "Шекспир. XX век".
19.05 Чудо-сказка.
19.29 Азбука.
19.50 "Документ-панорама".
20.45 После новостей...
21.05 "Ночи и дни". 10-я серия.
22.00 "Царица муз и красоты". З.Волконская. Передача 2-я.
22.45 "Сокровища Петербурга".

**НТВ**
6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 "Сегодня утром".
8.10 "Любовь и тайны Сансет Бич".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня.
9.15 "Продлись, продлись, очарованье..." Худ. фильм.
10.40 "Среда".
11.30 "Открытая книга".
13.30 "Скорая помощь" (США).
14.20 "Сегоднячко". Красная стрела.
15.30 "Захватчики" (США).
16.30 Впрок.
16.55 "Любовь и тайны Сансет Бич".

**"МОГИЛЕВ-1" на БТ**
12.25 Служба ваших забот.В студии начальник УВПС Могилевской области И.Климчинский.

**"МОГИЛЕВ-1"**
17.30 Мужской клуб."Хочу открыть публичный дом".
18.15 ДАО.
18.35 Ток-шоу "Лестница".
19.20 Праздник в вашем доме.
20.20 Телемагазин.
20.30 День области.
20.50 Астро-дайджест.
21.00 Праздник в вашем доме.
21.35 "Тихая земля".Фантастика.
23.10 День области.
23.20 "Солдаты группы Z". Боевик.

**2 КАНАЛ**
18.00 "Победоносный голос верующего".
18.30, 21.30 Городские новости.
18.40 "Союзмультфильму —60".
18.57, 20.40 Прогноз погоды.
19.00 "Дерзкие и красивые".
19.25 "Случайный свидетель".
19.50 "Поздравления".
20.30 Мультфильм.
20.43 "Пляж".
21.40 Триллер "Помешанные".
23.15 Спортивная программа.

## •• Четверг, 4 февраля ••

**БТ**
6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.10 Новости.
8.15 "Сегодня с вами..."
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Королевская охота.
9.40 Мультфильмы.
10.05 Семейный телеканал "На волне взаимопонимания".
10.45 Хореографические фантазии.
11.15 "Проклятый уютный дом".
12.05 "Охота в Налибокской пуще".
12.30 "А музыка звучит..."
13.15 "Песню берите с собой".
15.10 "Приключения Шерли Холмс" (Канада).
15.35 Видеокурс английского языка.
16.00 ТВ — школе.
16.30 Гости в дом.
17.10 "Карамболь" с участием Игоря Губермана.
17.40 Документальный экран.
18.05 "Проклятый уютный дом".
19.15 Политические диалоги.
19.40 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 О.Борисов в худ.фильме "Остановился поезд.
23.30 Криминальная хроника.
23.35 Белорусский хит-парад.
23.40 Крок.
0.20 Акколада.

**ОРТ**
8.00, 11.00, 14.00, 17.00 Новости.
8.15 "Жестокий ангел".
9.10 Человек и закон.
9.55 Клуб путешественников.
10.40 Мультфильм.
10.50 Домашняя библиотека.
11.15 Программа "Вместе".
14.15 "Каспер, который живет под крышей".
14.35 Мультфильм.
14.50 Классная компания.
15.05 Улица Сезам.
15.35 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Жестокий ангел".

